**№191 (2252)**

Субота, 1 кастрычніка 2005 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +20...+22, сонечна, уначы — +11...+13, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +18...+20, сонечна, уначы — +12...+14, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +19...+21, уначы — +12...+14, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +20...+22, сонечна, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +20...+22, сонечна, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +20...+22, сонечна, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*




**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

# Крок да перамогі

## *Кангрэс дэмакратычных сіл насамрэч можа стаць пачаткам вяртання Беларусі да дэмакратыі*

**Вячаслаў ОРГІШ,**
*доктар філасофскіх навук*



Яшчэ на пачатку лета Кангрэс дэмакратычных сіл здаваўся справай далёкай. А сёння ён пачынае сваю працу.

Меней чым за паўгода шэрагу палітычных партый дэмакратычнага накірунку ўсё ж такі ўдалося пераадолець раздробленасць сваіх сіл, прытушыць супярэчнасці. Прайшлі рэгіянальныя канферэнцыі, у якіх узялі ўдзел тысячы грамадскіх і палітычных актывістаў, вызначыліся лідэры ў змаганні за майку "адзінага" на выбарах 2006 года.

Зразумела, не ўсё адбывалася так, як хацелася. Не ўсе палітычныя партыі, грамадскія плыні, грамадскія дзеячы ўзялі ўдзел у працэсе падрыхтоўкі да Кангрэса, не ўсім спадабалася яго канцэпцыя, не ўсе сілы былі падцягнутыя. Перш за ўсё па розных прычынах засталася ў баку частка беларускай сацыял-дэмакратыі, якую цяпер вядзе за сабой Аляксандр Казулін. Яны плануюць ісці на выбары сваёй калонай, абяцаючы каардынаваць намаганні з камандай тых, хто зрабіў стаўку на праект "5+". У працэсе распрацоўкі гэтага праекта яго менеджэрам, на жаль, не ўдалося інтэгрыраваць у палітычную работу шэраг выбітных грамадскіх асоб, якія не прадстаўляюць палітычных партый, але адчувальна ўплываюць на палітычнае жыццё, фарміруюць пэўныя настроі сярод эліты грамадства.

У выніку на Кангрэсе прадстаўлена значная (можа, нават большая) частка дэмакратычнай грамадскасці Беларусі, беларускай апазіцыі рэжыму А.Лукашэнкі. Але ўсё ж не ўся грамадскасць.

Добра гэта ці дрэнна? На гэты конт існуюць розныя думкі. Хтосьці лічыць, што трэба было намагацца поўнай прадстаўнічасці. Хтосьці кажа: дзякуй Богу, што ёсць хоць такі склад Кангрэса.

На самай справе фармат, з якім дэмсілы падышлі да свайго галоўнага форуму, не варта кваліфікаваць пры дапамозе жорсткіх ацэнак ("добра"—"дрэнна"). Здзейснена істотная частка палітычнага працэсу, скіраванага на пошук аптымальнага варыянту падрыхтоўкі да галоўнай палітычнай падзеі 2006 года. І гэта цалкам нармальна, але далёка не дастаткова для канчатковай перамогі.

Ці патрэбна рэвізія зробленага?

Толькі і выключна з пункту гледжання ўдакладнення стратэгіі і тактыкі далейшага руху да канчатковай мэты. Зразумела, што адзіны, якога мяркуецца абраць на Кангрэсе, сёння не здолее арганізаваць вакол сябе ўсе сілы, якія жадаюць перамен у краіне. Занадта вялікія разыходжанні сярод апазіцыі, палітычных і грамадскіх арганізацый. Але абраны "адзіны" зможа эфектыўна працаваць і згуртоўваць тую істотную частку грамадства, якая схіляецца ісці за праектам, што пакладзены ў аснову Кангрэса. У "адзінага" будуць развязаны рукі, каб шукаць кампрамісы з тымі, хто прытрымліваецца іншых праектаў. Як бы ні было, але першы крок (абранне "адзінага") Кангрэс павінен зрабіць. Такім чынам будзе завершаны адзін з першых этапаў падрыхтоўкі для канчатковай і рашаючай кансалідацыі апазіцыйных сіл у барацьбе за ўладу.

Натуральна, з гэтага не вынікае, што абранец Кангрэса абавязкова стане галоўным прэтэндэнтам на перамогу над "драконам". Вызначэнне такой асобы яшчэ наперадзе. Галоўнае, што трэба зразумець: на дадзеным этапе ніхто не валодае надзейнай зброяй перамогі, аднак рухацца наперад неабходна. Абраны на Кангрэсе "адзіны" рэальна ўтворыць адзін з цэнтраў згуртавання праціўнікаў беларускага рэжыму. Безумоўна, з'явяцца аналагічныя іншыя цэнтры. Іх сукупнасць у рэшце рэшт павінна ўтварыць шырокі фронт барацьбы за перамогу дэмсіл на прэзідэнцкіх выбарах.

Тут паўстае казытлівае пытанне: а ці не будзе гэта дарэмным распыленнем матэрыяльных і чалавечых рэсурсаў? Здаецца, было б лепш, каб быў абсалютна адзіны кандыдат ад апазіцыі і абсалютна адзіны цэнтр супрацьстаяння А.Лукашэнку на маючых адбыцца выбарах.

Але трэба цвяроза глядзець на рэчаіснасць. "Правадыр" толькі чакае таго, каб насупраць яго стаў абсалютна "адзіны". Больш таго, ён мроіць аб тым, каб быў абсалютна "адзіны", бо яго будзе прасцей уцягнуць у выбарчую кампанію і прымусіць гуляць па правілах "Чырвонага дома". Няўжо нехта думае, што А.Лукашэнка, пабудаваўшы сістэму татальнага кантролю за СМІ, ходам выбараў, сфарміраваўшы кішэнныя выбарчыя камісіі, цалкам падпарадкаваўшы ўвесь выбарчы працэс мэце захавання асабістай улады, дазволіць "адзінаму" і яго камандзе ўзламаць гэтую сістэму. Чаму мы адкідваем такі варыянт: нават калі дэмакратычны кандыдат насамрэч набярэ 70%, а Лукашэнка — 30%, камісія на чале з вядомай асобай абвесціць аб чарговай "элегантнай" перамозе Аляксандра Рыгоравіча? Гаварыць пра другі тур нават смешна, бо ўсё адбудзецца ў першым туры.

Перашкодзіць гвалту над дэмакратыяй у краіне можна толькі тады, калі зрабіць прэвентыўныя захады. Дзеля гэтага і патрэбны шырокі фронт, які аб'яднае ўсіх, хто тым ці іншым чынам жадае перамен. Палітычныя і грамадскія лідэры, якія ўвойдуць у яго шэрагі (і прывядуць за сабой пэўныя сілы), перш чым вызначыцца з абсалютна "адзіным", а таксама адносна ўдзелу ў выбарах наогул, мусяць вырашыць прынцыповыя пытанні.

**Як разблакіраваць доступ да дзяржаўных СМІ?**

**Як зрабіць празрыстай і неангажаванай працу выбарчых камісій?**

**Якім чынам пакласці канец умяшальніцтву "вертыкалі" ў выбарчыя працэдуры?**

**Як змяніць адыёзныя выбарчыя нормы накшталт датэрміновых выбараў?**

**І наогул — ці варта пагаджацца на ўдзел у выбарах А.Лукашэнкі, які дамогся такога права праз парушэнні заканадаўства?**

Падкрэслім, без вырашэння гэтых пытанняў удзел у выбарах 2006 года губляе сэнс. А калі яны будуць вырашаны, то ўдзел у выбарах некалькіх дэмакратычных кандыдатаў (а не выключна аднаго) дапаможа зрабіць выбар народа больш трапным.

Цалкам магчыма, што вышэйназваныя прынцыповыя пытанні вырашыць не атрымаецца. Тады альтэрнатывай удзелу ў выбарах можа стацца іх байкот, які адкрые іншую старонку барацьбы за дэмакратыю ў краіне. Безумоўна, такі крок будзе больш важкім і гучным, калі яго зробяць, скажам, усе дэмакратычныя прэтэндэнты. І "правадыр" застанецца ўдзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі з якой-небудзь "шасцёркай" накшталт Уладзіміра Вольфавіча беларускага разліву.

Дык усё ж ці варта рабіць рэвізію палітычнага працэсу, які пэўным чынам падсумоўваецца на Кангрэсе? Адказ, які вынікае са сказанага, здаецца відавочным. Тым не менш напярэдадні Кангрэса (28.09.2005 года) у "Народнай волі" была надрукавана "Дэкларацыя", з якой вынікае, што беспартыйныя прэтэндэнты далучаюцца да партыйных, будуць каардынаваць і аб'ядноўваць свае намаганні з апошнімі. Інакш кажучы, беспартыйныя прэтэндэнты пагаджаюцца на праект, які ачольвае "5 +".

Дэкларацыю можна было б лічыць істотным поспехам тых, хто дамагаецца еднасці дэмакратычных сіл, калі б не адна акалічнасць. Як стала вядома, дамоўленасць з беспартыйнымі стала магчымай у выніку пагаднення. Згодна з ім, абранне "адзінага" кандыдата на Кангрэсе будзе адкладзена. Такім чынам, беспартыйныя прэтэндэнты быццам атрымоўваюць магчымасць змагацца за майку "адзінага" нароўні з партыйнымі.

Відавочна, што гэта адтэрміноўка небяспечная, працэс, які распачалі палітычныя партыі, можа ўвогуле пачаць разбурацца, а гэта прывядзе да яшчэ большай дэзарганізацыі апазіцыі.

Што хаваецца за гэтым ходам? Здаецца, амбіцыі некаторых партыйных прэтэндэнтаў (як і некаторых беспартыйных), якія падышлі да Кангрэса з адчуваннем аўтсайдэра ў сваёй барацьбе за майку лідэра.

Скажам яшчэ раз: прынцыповы перагляд палітычнага праекта падчас яго частковага завяршэння — рэч небяспечная. У гэтай сувязі нельга не пагадзіцца са словамі аднаго з галоўных удзельнікаў Кангрэса Аляксандра Мілінкевіча: *"Менавіта 1—2 кастрычніка на Кангрэсе дэмакратычных сіл мы павінны канчаткова вызначыцца і абраць "адзінага" кандыдата. Барацьба паміж прэтэндэнтамі павінна скончыцца зараз, каб быў час падрыхтавацца да выбараў"*. Да гэтага дадамо толькі, што барацьба павінна скончыцца для тых прэтэндэнтаў, якія ад самага пачатку бралі ўдзел у праекце "5+". Але ж нельга не прымаць пад увагу, што шырокая дэмакратычная грамадскасць здольна вылучыць і іншых прэтэндэнтаў.

***

Якімі б ні былі вынікі Кангрэса, можна быць упэненым у тым, што яго правядзенне — першы істотны крок у перамозе над беларускім рэжымам. Лёсам і гісторыяй Беларусі наканавана вяртанне на шлях дэмакратычнага развіцця. Прадчуванне гэтага ўжо лунае ў паветры.

**ЗАЯВА**

# У сувязі з рэпрэсіямі супраць газеты «Народная воля»

Агульны сход РГА "Беларускі ПЭН-цэнтр", які адбыўся ў г.Мінску 29 верасня 2005 г., маючы на ўвазе тое, што "Народная воля" на сёння фактычна з'яўляецца адзінай незалежнай агульнанацыянальнай штодзённай грамадска-палітычнай газетай і што шмат якія пісьменнікі і журналісты, члены нашага аб'яднання, рэгулярна друкуюць свае артыкулы і літаратурныя творы на яе старонках:

— зазначае, што ў адзін і той самы дзень, 28 верасня 2005 г., тры кантраляваныя дзяржавай установы — ГРУП "Белсаюздрук", ГРУП "Мінгарсаюз" і ААТ "Чырвоная зорка" афіцыйна паведамілі галоўнаму рэдактару названай газеты пра скасаванне ў аднабаковым парадку кантрактаў на яе друк і распаўсюджванне,

— падкрэслівае, што дзве з вышэйназваных устаноў, "Белсаюздрук" і "Мінгарсаюздрук", з'яўляюцца фактычнымі манапалістамі на рынку распаўсюджвання прэсы ў Рэспубліцы Беларусь;

— выказвае сваё абурэнне ў сувязі з тым, што рашэнні вышэйзгаданых устаноў былі матываваныя нязгодай са зместам асобных публікацый у "Народнай волі" чыноўнікаў, якія ўзялі на сябе функцыі судовых органаў;

— адзначае, што гэтыя дзеянні знаходзяцца ў супярэчнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, якая забараняе любыя віды цэнзуры пры адсутнасці надзвычайнага становішча ў краіне;

— выказвае свой пратэст супраць гвалтоўнага ціску беларускіх уладаў на незалежную прэсу і, у прыватнасці, на газету "Народная воля";

— настойліва патрабуе ад кампетэнтных беларускіх уладаў скасаваць палітычна матываваныя рашэнні, спыніць рэпрэсіі супраць газеты "Народная воля";

— заклікае ўсе нацыянальныя ПЭН-цэнтры накіроўваць лісты пратэсту супраць уціску на газету "Народная воля" на адрас прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**ГЛАС НАРОДА**

# *«Народная воля» нужна людям»*

***Анатоль ВЯРЦІНСКІ, паэт, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання:***

— Памятаю, як мы, дэпутаты Вярхоўнага Савета, у прыватнасці, сябры яго Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, радаваліся, калі прымалі Закон аб друку з яго артыкуламі 3 і 4, дзе чорным па белым было напісана, што "грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права засноўваць сродкі масавай інфармацыі, валодаць, карыстацца і распараджацца імі", "свабодна выказваць праз іх свае думкі, погляды і перакананні", радаваліся, калі прымалі новую Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь з яе знамянальнымі артыкуламі 33 і 34, у якіх урачыста абвяшчалася: "Кожнаму гарантуецца свабода поглядаў, перакананняў і іх свабоднае выказванне... Гарантуецца права на атрыманне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі... Цэнзура не дапускаецца". Радаваліся, бо ўсведамлялі, што робімся, дзякаваць Богу, свабоднымі, цывілізаванымі людзьмі, што краіна наша становіцца дэмакратычнай, прававой дзяржавай, пачынае займаць належны пасад між народамі. Газета "Народная воля" на чале з Іосіфам Сярэдзічам якраз і з'ўлялася рэальным увасабленнем згаданых законапалажэнняў, практычнага ажыццяўлення права грамадзян на свабоду слова і інфармацыі. І тое, што сёння робіцца ў дачыненні да яе ўладамі, інакш як беззаконнем, гвалтам, распраўай не назавеш. Ганьба!..

***Игорь ЖЕЛЕЗОВСКИЙ, неоднократный чемпион мира по конькобежному спорту, председатель Союза конькобежцев Беларуси:***

— "Народная воля" нужна людям, она должна быть обязательно.

***Ярослав ЕВДОКИМОВ, певец, народный артист Беларуси:***

— О Господи, я уже целый год в Минске не был, но, оказывается, дурдом продолжается, а маразм крепчает. А газета просто необходима! Потому что это ненормально, чтобы не было оппозиционной газеты. Такое может быть только в ненормальном обществе с ненормальной властью.

***Валянцін ТАРАС, пісьменнік:***

— Цяжка што-небудзь казаць, бо спачатку хочацца проста лаяцца... Такога палітычнага цынізму і такога нахабства я за свой доўгі век не бачыў. І гэта абсалютная пагарда нават той Канстытуцыяй, якая дзейнічае. Пляваць яны хацелі на сваю ўласную Канстытуцыю! Яны бяруць на сябе ролю пракурораў і суддзяў. Яны ўжо вынеслі прысуд. Што тут скажаш?..

***Дмитрий ДЕБЕЛКО, борец, бронзовый призер Олимпиады:***

— Когда я попал в беду, "Народная воля" первой пришла мне на помощь. После статьи задвигались чиновники, пошел хоть какой-то процесс. Помню, что газету передавали из рук в руки, читали... Я не понимаю, что в том плохого, когда газета пишет правду?

***Станіслаў ШУШКЕВІЧ, экс-старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі:***

— Я перакананы, што адбываецца зачыстка апошняга больш-менш незалежнага сродку масавай інфармацыі. Улада не бачыць іншага шляху самазахавання, як ліквідаваць незалежныя масмедыя, а ў нашым выпадку, "Народную волю". Думаю, што і дапасавалі гэтае мерапрыемства якраз да Кангрэса дэмакратычных сіл. Працуе дзяржаўны ідэалагічны цэнтр...

***Владимир ПАРФЕНОВИЧ, олимпийский чемпион, депутат Национального собрания Палаты представителей 2-го созыва:***

— Ребята рано взялись за вас. Я думаю, что в ближайшее время они вас потерзают, а затем поводок отпустят. А перед выборами снова начнут затягивать веревку. И если по-прежнему будете писать правду, могут просто закрыть.

***Сергей НИКОЛЮК, политолог:***

— Происходило то, что и происходит. Власть последовательно уничтожает всех, кто не согласен с ее мнением. У нас ведь в Беларуси немало людей, которые принципиально не согласны с властью. И это не зависит от того, повысилась зарплата или нет. Это мировоззрение этих людей. А власть должна признавать, что есть люди с разными интересами, и как-то это согласовывать. Но у нас поступают иначе. Они говорят: "Есть народ, который нас поддерживает". А тех, кто не поддерживает — их просто нет. И чтобы этих людей действительно не было, надо не дать им высказаться. Это проявляется и в закрытии газет, и в невозможности открыть новые, зарегистрировать движения, организации. Все эти люди, по разумению власти, — никчемные. Поэтому события вокруг "Народной воли" абсолютно предсказуемы.

**Алесь СИВЫЙ.**

**СЛЫШАЛИ?**

# *Владимир Некляев возглавил ПЕН-центр*

**Председатель Белорусского ПЕН-центра Лявон Борщевский решил уйти в отставку, сославшись на личные творческие планы. 29 сентября на очередном собрании организации было выбрано два кандидата на пост нового руководителя ПЕН-центра. Владимир Сивчиков и Владимир Некляев. Большинство членов организации поддержали Некляева, который обещал сохранить преемственность.**



На собрании ПЕН-центра были приняты заявления с протестом против репрессий в отношении газеты "Народная воля" и в связи с ограничением свободы члена организации Павла Северинца, который был сослан за свои убеждения в отдаленную деревню и лишен возможности работать по профессии.

Кроме того, на общем собрании ПЕН-центра было принято решение о выдвижении поэта Рыгора Бородулина на получение Нобелевской премии.

